шыстыя, зламаўшы ўмову аб ненападзе, падступна й неўспадзеўкі сяньня, 22 чырвіня 1941 году, а чацьвертай гадзіне раніцы напалі на наш мірны край...

Уражаныя й утрапёныя, некаторыя да зьбялеласьці, усе толькі моўчкі пераглянуліся.

Высокі ўрадовы прадстаўнік гаварыў пра бамбардаваньне сяньня ўраньні нямецкімі самалётамі местаў Кіева, Коўні, Вільні й Беластоку.

І магчыма ня так адразу ў усёй сваёй нечаканасьці праняла людзёў сама навіна аб пачатку вайны, як паведамленьне пра першыя бомбардаваньні ведамых местаў. Усім адразу зрабілася нат ніякавата й нязвыкла з таго, што там нейдзе ўжо гарацьместы, з паветра лятуць мэталёвыя насьбіты сьмерці й забурэньня, а тут, у нас, яшчэ ціха, спакойна, і нат да апошняе часіны яшчэ й ня ведалі. Кажны праняўся думкай пра кон, што дойдзе й да гэтага места.

Мусіць ужо тады із шмат каго адразу спала засьляпеньне, спрычыненае шматгадовай прапагандай, што „ваяваць будзем на чужой тэрыторыі”...

— Дык-жа ўжо нашыя месты збамбардаваныя. А Божухна мой, а мой-жа сынок там у Беластоку зборы адбывае, — вырвалася зьнячэўку ў ваднае сталае жанчыны, што выпадкам праходзіла паўз галасьнік і, неўзнарок, пачула пра пачатак вайны.

Усе змоўчалі, нат ня кажны глянуў на яе, хаця-ж пэўна ўсе пачулі ейныя нязвыклыя словы з гэтым раптоўным „а Божухна мой”. Яна-ж, не пачуўшы ніякага рэагаваньня на свае словы, як-бы засаромелася ад іхнае нязвыкласьці і таксама моўчкі пасігала далей.

Моўчкі-ж, зьбянтэжана й недалужна сядзелі вольныя й міжвольныя слухачы, калі Молатаў скончыў заклікам да змаганьня з агрэсарам. Адны як-бы й ня ведалі, што й казаць ад нутраное ўзрушанасьці й неспадзеўкі, іншыя як-бы папрыросталі да лавак і ня мелі змогі падняцца.

Колькі асобаў раптам пазрываліся зь месцаў і, як учадзеўшы, пабеглі да сваіх із навіной. Некаторыя з тых, што стаялі пад галасьнікам, памкнуліся тут-жа барджджэй выказаць сваю вернападданасьць да ўраду і загаварылі, што агрэсар будзе разьбіты й выкінуты із савецкае тэрыторыі... Іншыя толькі лыпалі вачыма, як-бы спрабуючы разважыць — паглядзім, час пакажа.

Кастанцы маўчаў таксама. Хаця-ж яму й хацелася нешта ўста-

віць сваё ў гэтую агульную зьбянтэжанасьць і паварушыць ніякаватасьць маўчаньня, аднак разважлівасьць змусіла далей маўчаць і яму. Адылі, за часіну ён адчуў на сабе й злавіў сьвідруючы зрок якогасьці чалавека. Той пільна ўглядаўся ў від кажнага, як-бы спрабуючы здагадацца, што думае ягоны собсьнік. Ягоны пранырлівы лісьліва-хітраваты зірк ужо колькі разоў спыняўся на Кастанцавым відзе і зараз-жа пераводзіўся на іншага, а за часінку варочаўся да яго ўзноў. Адчуўшы на сабе ягоны няпрыемны зірк, Кастанцы борзда ўськінуў на яго свае вочы, і іхныя пагляды сустрэліся. Той лыпнуў вачыма й адвёў іх у бок.

— І тут ужо сочаць, — мільганула думка ў Кастанцавай сьведамасьці. — Трэба ўцякаць далей ад абсочных сабак... нідзе няма спакою. А цяпер асабліва боязна хоць адным словам прамахнуцца ды даць яму матар'ял. З гэтай думкай ён устаў і памкнуўся йсьці. Аж чуе ззаду гучна завецца ягонае прозьвішча, быццам хтосьці зь яўным намерам зварачаецца да яго. Кастанцы азірнуўся... Аж, гэта той-жа чалавек, што сьвідраваў кагадзе ўсіх паглядамі.

— Калі ласка, вы мяне гукнулі? Чым магу служыць? — спытаўся Кастанцы. — Ха-Ха-Ха — азваўся невядомы, — ничего, это так себе! — быў адказ.

— Скуль Вы мяне знаеце із прозьвішча? — спытаўся ўзноў Кастанцы.

— Ничего, ничего, проходите. Это неважно, — станаўко і з пэўнай праявай злосьці адказаў гэты чалавек у кепцы.

— Выбачайце — сказаў Кастанцы, — і завярнуўся йсьці ў ранейшым прасьцінку. Доўга ён адчуваў сьвідруючы зрок невядомага, аж пакуль ня вышаў із саду і не прамінуў колькі завулкаў да завароту. Яму ўсё здавалася, што чалавек назіркам нябачна сігае за ім і пранізуе ягоную сьпіну сваймі халодна-войстрымі вачмі, якія, здавалася, калолі да болю мясьціны іхнага дотыку да зьверху ягонага цела.

— І чаго яму трэба было? — думаў ён у дарозе. — Праўдзіць прозьвішча і маю асобу. — Дык хіба гэта ён ня мог зрабіць лепш і больш таемна, ня прыцягуючы мае ўвагі да факту асокі? Ці можа выпрабаваць, якое гэта даймо зробе на ахвяру ягонае асокі? Хацеў пераканацца, ці спалохаюся, дазнаўшыся, што асока нідзе й ніколі ня спушчае зь мяне свайго ўсебачлівага вока? Ліха яго ведае... Няпрыемны сам факт, незалежна ад конкрэтнае мэты, што

за ім. І няхай сабе ў гэтым няма ніякае неспадзеўкі, — Кастанцы ведаў пра сваю паднагляднасьць ужо даўно, — усё-ткі адчуваньне было гадкае. І хаця-ж ён устаў ісьці манючыся баржджэй прынесьці да хаты гэтую надзвычайную навіну пра вайну, аднак на нейкі час гэтае здарэньне зь невядомым, што гукнуў яго подле прозьвішча, перабіла першыя доймы ад гэнае навіны і навяло ўзноў яго на цяжкія думкі аб бязвыхаднасьці й безнадзейнасьці ягонае долі ў таемна сплеценым павучыньню, што наапошку ўзноў завалакло яе.

Маланкаю прарэзалі памяць успаміны пра выпадкі зь ім у навуковым інстытуце, дзе ён усяго колькі месяцаў назад апынуўся ў цяжкім палажэньню. Вось тады-ж мусіць і сталася гэта, што ён апынуўся йзноў пад наглядам. Пасьля перажытых год выгнаньня хаця-ж і сьцярогся Кастанцы дзе-небудзь якое-небудзь вольнае, недазволенае слова вымавіць, але не ўсьцярогся. Дарма, што зусім ненаўмысьля і без аніякае злое волі.

Было гэта **неяк апаўдні, можа ўжо** перад самым канцом працы, калі ад сядзеньня пры стале анямелі ногі, а галава ад бязупыннага разважаньня над матар'яламі як-бы апусьцела й пацяжэла. Вось-жа, уварваўшы якую часінку, захацелася ўстаць і ў вольнай гаворцы ізь сябрам працы адыйсьціся крыху ад напружаньня. І ні тое, каб гэта быў запраўдны сябра, зусім не, — што ён меў супольнага з гэтым сібіраком, апрача таго, што свайго часу ў студэнцкія гады пазнаёміўся зь ім у Ленінградзе і, пэўна, пакінуў у ім неблагія доймы, што той аж навет абраў для свае будучае працы беларускую сталіцу і цяпер зжыўся з нашым краям, як-бы із сваёй другой бацькаўшчынай. Не пачуваючы да яго, як да асобы, асаблівага замілаваньня, Кастанцы, аднак, цаніў тое, што гэны быў высокае думкі аб беларускім народзе. Таму Кастанцы ахвотна гутарыў ізь ім і нат любіў часамі па-хлапецку адпаліць якую штуку. Зь ім ня было патрэбы быць надзьмутым ды нацягнутым. Таму мог тут дазволіць сабе і які-небудзь хлапецкі выбрык, дзівака згуляць.

І ўсё гэта зыходзіла-б няўпрыцям, каб ня пільнае вока парторга інстытуту. Гэты апошні ня меў ня тое, што пядзі, але і трох палцаў у лобе, быў няздатны да якое-колечы спаважнае дасьледнае працы, — пустацьвет у поўным сэнсе гэтага слова. Аднак, ён дзяржаўся моцна за свой партбялет. Дзякуючы ня ўмеру праяўленай пільнасьці ў мэтах апраўданьня партыйнага бялету і вялізар-

нае сумы зьедзеных дарма грошаў, ён ужо колькі год займаў у Інстытуце пасаду, якую, мусіць, сам дырэктар не азначыў-бы дакладна. Рэґулярна даставаў плату, хаця работы ніякае зь яго інстытут ніколі не вымагаў. Праўда, бальшыня моўчкі ведала ці здагадавалася аб функцыях гэтага „вока". Вынікі ягонае „працы" давалі сябе адчуваць можа яшчэ мацней, чымся ўся навуковая праца Інстытуту — час ад часу яна змушала здрыгануцца ўсіх супрацоўнікоў, калі нейкага дня не зьяўлялася на працу колькі працаўнікоў, а пазьней ставалася ведамым, што іх праглынуў чародны выезд „чорнага ворана". Як звычайна, неўзабаве зьбіраўся агульны сход Інстытуту, і ад імя дырэкцыі й партарганізацыі штатныя прамоўцы дапякалі супрацаўнікам у страце пільнасьці, дзеля чаго ў іхным асяродзьдзі дзеялі варагі народу, якіх трэба было даўно бязьлітасна выпякаць гартаваным зялезам, і заклікалі ўсіх да падвышэньня пільнасьці. На гэтым знадворна чародная інсцэнізацыя канчалася да наступнога выпадку. Але не канчалася яна для пільнага вока. Яно яшчэ больш рупна й аддана сьвідравала кажнага ад галавы да пятаў. Не прагледзіла яно й Кастанцавых учынкаў. Здавалася, нікога і ў пакою ня было, калі ён завалтузіўся із сваім сябрам, каб разьмяць косьці. І здарылася на тое ліха выпасьці ізь сябравае кішэні грашовай чырванаватай паперцы ў тры чырванцы з патрэтам Леніна на ёй. І трэ'-ж было Кастанцаму незагледзець гэнага і неўзнарок ступіць на яе... чым-бы вы падумалі?... нагою. Не вялікая-б бяда яшчэ, каб не надарылася якраз-жа ў гэтай часіне як спад зямлі зьявіцца самому „воку". І ўявіце сабе абурэньне, калі ўбачыла яно, як „попирают ногами" вышшы сымболь пролетарскае ортадоксіі. Нічога яму ня значылі перапрашаньні й шчырае ў тую часіну замяшаньне й шкадаваньне, што так здарылася, з боку Кастанцага. Факт стаўся адразу ведамым дырэкцыі. Гэтая апошняя змушаная была дзеля гэткае, здавалася-б, драбязы зьбіраць сход.

На сходзе, пасьля паведамленьня аб учарашнім выпадку і даўгіх слоўных рэляцыяў пільнага вока, якое быццам ад узрушэньня цэлую ноч ня спала... (Кастанцы разумеў... данос пісаў), вінавайцу нічога не заставалася рабіць, як каяцца, прызнавацца да вялікае віны. Хаця-ж і не прызнаючы ніякіх злосных сьведама-варожых намераў, Кастанцы мусіў, аднак, вызнаць за сваім учынкам вялікую шкоду „гаспадарству й соцыялістычнаму ладу", і што об'ектыўна

гэта было выгодна розным варожым элемэнтам унутры й вонках краю.

Ці магчыма было-б яму працаваць у гэтай установе далей — няма ведама, бо гэта здарылася наконадні ўжо даўно прадбачанай ліквідацыі таго Інстытуту. Выработаная-ж ужо раней навуковымі заслугамі Кастанцага апінія ў дырэктара памагла яму перайсьці на падобную навуковую працу ў іншы навукова-дасьледны Інстытут Школаў. Але й там яго не пакінулі ў вадзіноце. Адразу-ж да яго часта пачаў чапляцца з рознымі палітычнымі пытаньнямі бібліятэкар Інстытуту, малаасьвечаны, цалком у палоне савецкае доктрыны чалавек. Зацеміўшы неахвоту Кастанцага да гутаркі, ён зьмяніў тактыку. Штораніцы, перад пачаткам працы ў вялікім пакоі, праз які хадзілі ў бібліятэку і ў якім працавала колькі навукоўцаў, той пачаў заводзіць гаворкі аб палітычных падзеях. Стараўся ўзьняць тэму і чакаў пачуць адказы. Бальшыня, не навучаная яшчэ дазнаньням, якое меў Кастанцы, ахвоча ўлучалася ў дыскусіі і перасыпала словамі з пустога ў парожнае. Кастанцы ў такі час маўчаў. Ён уважліва раскладаў кнігі й паперы і, утапіўшыся ў рукапіс перад ім, быццам і ня чуў гаворкі, якая яшчэ доўга, аж да прыходу кіраўніка аддзелу або выпадковага даведаньня дырэктара, лілася бясконцым цуркам. Запраўды, цяжка было часамі ўзьдзержыцца ад таго, каб не зрабіць і свае зацемкі. Але як не падсядаў да яго бібліятэкар, якім жэўжыкам каля яго ні завіхаўся, як ён ні спрабаваў выцягнуць слова ў Кастанцага, усё дарма — той маўчаў, як вады ў рот набраўшы.

— Даражэнькі, часу ня маю, другім разам, — адхінаўся, звычайна ён, загадзя ведаючы, што доўга яшчэ давядзецца таму чакаць гэнага другога разу.

Асабліва асьцярожным зрабіўся Кастанцы, калі зацеміў, што ведамае яму з ранейшага Інстытуту „вока" пачало давядацца час ад часу да бібліятэкі гэтага Інстытуту, доўга аб нечым радзіцца зь бібліятэкарам у чатырох сьценах.

— Пэўна-ж, не забываюцца й на маю грэшную душу, — думаў Кастанцы, — усё мяркуюць, як лепш у хітра сплеценую сетку злавіць.

— Не здавайся, Косьця, дзяржыся! — бадзёрыў ён сам сябе. — Не давай гаду еміны, каб менш было выраблена атруты ў ягоным джгале.

І як ні кіпела абурэньне ў яго ў нутры, як ні хацелася яму часамі выпаліць гаду ўсё, што набалела ў яго на сэрцы, назваць усіх іх назовам, на які яны толькі заслужылі, як ні было цяжка зьдзержаваць у сабе жаданьне даць зразумець ім іхнае брыдкое, нізкое й нягоднае становішча сэксотаў, адылі знадворна ён захоўваў сябе спакойна і з усімі быў роўна ветлым і абыходлівым.

(Працяг будзе)

---

## Паляшукі й Палявікі*)

Было ў бацькі двананцацёх сыноў ды ўсе яны вельмі ўдалыя дзяцюкі. **Жылі яны ў цёмным лесе,** дзе вялося шмат усялякага зьвяр'я, пасьцілі свой статак ды лавілі зьвярыну. Суседзі жылі далёка і рэдка рабілі ім шкоду, бо баяліся ўдалых дзяцюкоў, каб не нагрэлі ім па патыліцы. Жылі яны разам і слухалі старога бацькі, а ён ужо сівенькі бы лунь, сядзеў сабе ў кажушку і ўлетку ды загадаваў. І быў у іх лад і ўсім была добра. — Яны ўсе пажаніліся, і было ў іх шмат дзяцей, але ўсе слухалі старога і кажын рабіў сваё дзела.

Толькі вось памёр стары бацька, і пачалі жанкі сварыцца паміжсобку, пачалі вадзіцца ды падвучаць сваіх гаспадароў. І такая ў іх пашла звада, што й жыткі няма. Ведама, калі бабы чаго захочуць, то й сам чорт іх не пераставіць. А тут яны ў вадзін голас крычаць: дзяліцца ды дзяліцца. Пачалі браты дзяліцца. Вадзіліся, вадзіліся яны пакуль дзялілі жывёлу ды усе дабро, а як пашлі дзяліць зямлю, дык пачалі біцца, што ледзь адзін аднаго не пазабівалі ды так і не падзялілі мо дагэтуль. Вадзяцца браты паміжсобку за зямлю, захапляюць чужыя дзялянкі і ніколі ў іх нямаш спакою.

---

*) „Палявікамі" Паляшукі завуць тых Беларусаў, што жывуць вонках Палесься (у вужшым значаньню гэтага слова). Апрача таго, мяшчане ў Беларусі завуць „палявымі" селавых людзёў. У гэтай палескай казцы адбілася гісторыя Беларускага Народу. У ёй-жа палескія Беларусы выказуюць свой пагляд на Беларусаў іншых, як на сваіх дарагіх братоў, накшых ад тых братоў-народаў, што сталіся разбойнікамі і іхнымі варагамі. Казка ўзята з кнігі Аляксандры Сяржпутоўскага „Казкі й апавяданьні Беларусаў з Слуцкага павету", выданай у 1926 г.

Толькі два малодшыя браты жылі паміж сабою вельмі згодна: куды адзін, туды й другі. Не захацелі яны вадзіцца з братамі, кінулі сваю бацькаўшчыну дый пашлі ў свет шукаць сабе зямлі. Вось занялі дый пагналі яны свой статак і **забраліся ў такі лес, што й канца яму нямашака.** Ня могуць далей ехаць, — лес замінае. Пачалі яны церабіць дарогу ды масьціць грэблі. Але дзе там, чым далей, тым лес усе гусьцее, а ў ім стаіць такая тхлань ды нетра, што й выбрацца нельга. Вось і кажа большы брат: застануся я тут, бо не магу выбрацца зь лесу. **І застаўся ён сярод таго лесу. І назвалі яго і дзеці яго Паляшукамі.** Малодшы-ж брат працярэблеваў дарогу, масьціў грэблі ды клаў кладкі і ехаў далей. Мо **й дагэтуль на Палесьсю** яшчэ ё тыя прасекі ды грэблі, што нарабіў той чалавек. Ня доўга яны ехалі на сваіх колах, як убачылі, што лес пачаў радзець, пачалі трапляцца прагаліны, палянкі ды палі, дык яны атаўбаваліся там і пачалі разрабляць поле, затым і назваліся яны Палявікамі. Потым **размножыліся як Паляшукі, так Палявікі, занялі пусты лес дый пачалі жыць адны каля адных побач.**

За немалы час у Паляшукоў і Палявікоў разьвялося шмат жыёлы дый усялякага зьвяр'я ў іх лясох было больш, чымся ў тым месцу, дзе атаўбаваліся тыя дзесяцёх братоў. Вось яны пашкадавалі, што пусьцілі сюды меншых братоў і што далі ім шмат жывёлы, пашкадавалі дый уздумалі адабраць назад. Даведаліся Паляшукі й Палявікі, што тыя падходзяць да іх із разбоям, нарабілі ў лесе завалаў ды накапалі глыбокіх ямаў дый зацеранілі іх мохам, а самі пахаваліся ў гушчары дый цікуюць, што будзе далей. Але вось падышлі тыя разбойнікі — дый пачалі валіцца ў ямы, а ў іх была вада. Адныя патапіліся, а другія заблыталіся ў засеках дый загінулі ў нетры безь яды. Вось адагналі апошніх разбойнікаў Паляшукі й Палявікі дый давай выхваляцца адны перад адымі. Паляшукі кажуць, што гэта яны сваймі засекамі ў лесе загубілі разбойнікаў, а Палявікі кажуць, што разбойнікі загінулі ў тых ямах, што Палявікі выкапалі. Пашлі яны выхваляцца ды спрачацца. Спрачаліся, спрачаліся ды за чубы, ды за калы... І пашла тут такая бітва, што гарэй як ад разбойнікаў. Б'юцца Паляшукі з Палявікамі, паляць сёлы, нішчаць дабро ды парываюцца спрэсу загубіць адны адных, гарэй як лютыя варагі. Доўга біліся яны, але ня могуць здолець адны адных, толькі што далей, то ўсё больш і больш слабеюць як тыя так і другія.

Дачуліся варагі, што Паляшукі й Палявікі б'юцца міжсобку,

што яны не бароняць свае рубяжы, вось яны йзноў зыбралі вялікае войска дый пашлі паліць сёлы дый забіваць як Паляшукоў, так і Палявікоў. Ахамянуліся Паляшукі й Палявікі, годзе біцца самі з сабой, давай біцца з ворагам. Біліся яны, біліся, мо ўжо палавіна іх палягло, а нічога ня могуць зрабіць, бо варагі лезуць усе новыя й новыя. Шмат палягло й варагоў у чыстым полі, шмат заблудзілася ў лесе ды ў балотах і там загінула ад голаду, ад холаду, ці патапілася ў гразі, але яшчэ шмат засталося. Лезуць яны як сьвіне ў гарод, лезуць ды забіраюць Паляшукоў і Палявікоў у палон, забіраюць іх зямлю, жывёлу і ўсе дабро, а старых і малых забіваюць, ці цкуюць сабакамі. Закавалі яны ў зялезьзі ўсіх Паляшукоў і Палявікоў дый загадалі сабе служыць.

Нічога не парадзіш. Служаць Паляшукі й Палявікі тым варагом, бо не свая воля, служаць год, служаць два, а можа й больш. Працуюць яны на варагоў бы чорны вол і ніякае палёгкі ня маюць, працуюць, гаруюць ды праклінаюць сваю жытку. А варагі пануюць ды **зьдзекуюцца з простых людзёў,** а тыя рады, што хоць засталіся жывымі. Бачаць паны, што **простыя людзі** зьмірыліся, вось і ськівулі зь іх зялезьзі. Рады простыя людзі, дзякуюць Богу й за тое. І пачалі яны працаваць на паноў так шчыра, як самі сабе. А паном тое толькі й трэба. Працуюць простыя людзі, а паны толькі загадуюць ды падганяюць. І адвучыліся паны ад усялякае работы, ды так адвучыліся, што бяз простых людзёў ня могуць і жыць, бы тая птушка, як яе выпусьцяць із клеткі на волю. Бачаць тое простыя людзі ды толькі сьмяюцца з паноў. Яны сьмяюцца, а паны хоць бы што, балююць сабе ды яшчэ больш прыбаўляюць работы. — Бо яны — каа, — рагочуць бы жарабцы затым, што мала дзела. — Яшчэ гарэй стала людзём, і пачалі яны рабіць паном помсту: то сьвіран спаляць ці гумно, то каровы загоняць у такую тхлань, што яны там і пагінуць, то сьвіне патопяць, але ад таго й самі ня маюць чаго есьці, бо, ведама, жывуць на андынар'і: пана чорт не бярэ, — ён у суседа дастане, а людзі падыхаюць ды пухнуць з голаду. Што тут рабіць, што парадзіць? Ні зь якага боку нельга пазбавіцца ад тых паноў.

Але вось прыходзіць туды якісь старэнькі дзядок дый кажа: — людзі, людзі, вас шмат, а паноў жменя і гэтая жменя зьдзекуецца ды езьдзіць у вас на карку. Ці гэта-ж вы людзі, а не авечкі. — Пагаманіў ён у вадным месцу, ды ў другім, вось і схамянуліся людзі дый пачалі варушыцца. Знайшліся ўдалыя дзяцюкі, зыбралі

сваю вятку добрых малайцоў дый пашлі пярэсьціць ды мясіць тых паноў. Бачаць тыя, што гэта не пярэліўкі дый пусьціліся науцекі: хто ў лес, а хто ў чужыя краі. Вось і **аслабанілі Паляшукі й Палявікі свой край ад тых варагоў.**

## Севяране

**Северская зямля.** На ўсход ад Дзярвян а ўкраінскіх Палян, на левым баку Дняпра сядзелі Севяране альбо Север, Севера. „Селі на Дзясьне і па Семі і па Суле і назваліся Севера" кажа пра іх пачатны летапіс. Плямя гэтае займала басэйн Дзясны, апрача яе вярхоўя, што належыла да Смаленскае зямлі і было здаўна занята Крывічамі. „Вададзел Сожа й Дзясны адзьдзяляў яго ад Радзімічаў, вададзел Акі ад Вяцічаў, Дняпро быў заходняй граніцаю ад Палян"*) і Дзярвян. Северская зямля займала гэткія нядаўнія паветы: у басэйне Дзясны ў б. Чарнігаўскай губ.: Осьцерскі, Чарнігаўскі, Ноўгарад Северскі, Старадубскі, Горадненскі, Новазыбкаўскі, Почапскі, часьць Мглінскага й Сураскага, Сосьніцкі, Кралявецкі, і ў б. Арлоўскай губ. — Трубчэўскі, Бранскі**) й Карачэўскі; у басэйне Сейма ў б. Курскай губ.: Пуціўльскі, Рыльскі, Льгоўскі, Курскі, і ў Чарнігаўскай — Канатопскі. Займалі Севяране таксама паўночную часьць губ. Палтаўскай.

Як сьветча дыялектолёґія, у паветах Бранскім а Карачэўскім да северскага жыхарства была прымешка Крывічоў.

У лепшыя часы северскай колёнізацыі, за хазарскага гаспадарства, яны з канцавых сваіх селішчаў ля Сейма й Сулы пашыраліся на Данец і нат Дон. Арабскія пісьменьнікі кажуць пра чысьленае славянскае жыхарства ў Хазарыі. „З усяго стаецца пэўным, што Славяне дзесь паміж V а X стг. займалі Ўздоньне і адно націск Печанегаў аслабіў іхнюю калёнізацу і прынучыў перав族жную частку адысьці далей на поўнач"*). Але із Славян тут маглі быць адно Севяране. Данец зваўся Северскім**). „Яшчэ ў канцу XII стг.

---

*) Груш.: Іст. Укр.-Руси, I.193.

**) Пр. Соболевский: Лекции, выд. 4, бач. 38.

*) Грушевський, I, 196.

**) „А пратоку Данца Северскага ад верху і да ўтоку 514 в." „Рака Данец Северскі выцекла з чыстага поля". „Ісьці ад Северскага Данца на Мураўскую дарогу, а ад Северскага Данца да Мураўскае дарогі вёрстаў 40". Кніга глаголемая б. Черт. Спасскага бач. 24, 27, 28.

тут было места Данец, у каторым знайшоў сабе бясьпечнае прытулішча просьле адзінанцацьдзенных уцекаў з палавецкага палону Ігор Сьвятаславіч Северскі"***).

Найдальшай колёняй Северу на паўдзённым усходзе было места Тмутаракань ля Азоўскага мора. Пра северскасьць гэтае колёні сьветча „сталая сувязь Тмутараканя з Чарнігавам, каторая й на Русі прызнавалася справаю законнай. Першым ведамым ейным князем ё Імсьціслаў Валадзімеравіч (у вадзінанцатым стагодзьдзю), што задзіночыў пад сваёй уладаю Тмутаракань а Чарнігаў, і просьле яго Тмутараканям валодуюць галоўна Чарнігаўскія князі, на ўсіх засталых, каторым удаецца часова ўзяць яго ў свае рукі, глядзяць як на ўзрушыцеляў праваў Чарнігаўскага князя, і гэты йдзець на абарону свае ўлады. Тмутаракань прызнаецца спрадвечнай айчынаю ў родзе Сьвятаслава Яраславіча".

„Не дарма пяюн „Слова аб палку Ігоравым" выясьняе паход северскіх князёў 1184 г. жаданьням зьвярнуць Тмутаракань, што цяпер зацерты качаўнікамі і адарваны ад свае мітраполі. „Се бо два сокола с отня злата стола поискати града Тьмутороканя; а любо испити шеломом Дону".

„Наапошку, на карысьць нашага дапушчэньня прамаўляе яшчэ адна акалічнасьць. У сьпісаньню местаў рускіх, зьмешчаным у Ўскрысенскім летапісе, мянуецца Тмутаракань ля р. Остры, прытокі Дзясны, у Чарнігаўскім княсьцьве, а ведама, што аднолькавыя назовы вельмі часта ўказуюць на ґеоґрафічную альбо этноґрафічную блізіню іх люднасьці".*)

На левым баку Дняпра былі толькі Севяране. Украінскія плямёны ў старавеччу не займалі левага берагу Дняпра: Паляне й Улічы даходзілі на ўсходзе толькі да Дняпра. Пра Улічаў „выразьліва кажа старшая рэдакца летапісу ў вапавяданьню пра вайну зь імі Ігора: і сядзелі Уліцы ля Дняпра ўніз і потым перайшлі межы Бог а Днестр і селі там". Хоць пры гэтым не сказана, на каторым баку Дняпра Уліцы сядзелі, але найпростшае разуменьня тэксту кажа, што яны сядзелі на тым-жа правым баку, і нішто не прынукае адступаць ад такога выясьненьня".**)

---

***) Багалей: Ист. Сев., 20.

*) Багалей: Ист. Сев., 28.

**) Грушевський, І, 205.

Калі-б якія ўкраінскія плямёны былі на левым баку Дняпра, дык Севяране на сваім паўдню межавалі-б із імі, і северска-беларуская гаворка мела-б некаторыя рысы праміжныя, зближаныя або аднолькавыя зь некаторымі рысамі ўкраінскімі, як гэта бывае на сумежных прасторах блізкіх моваў, тымчасам нічагусенькі падобнага няма ў беларускай мове Севершчыны; там, дзе яна захавалася, яна належа да сярэдняга дыялекту і ё такою, як ля Рагачэва, Барысава, Вялейкі і на пагранiччу зь Лятувісамі. А дзеля таго што на ўсход ад Дняпра ня было Украінцаў, дык адзінымі Славянамі там былі Севяране.

У Севяран былі гэткія месты: Ноўгарад Северскі, Чарнігаў, Любеч, Старадуб, Трубчэўск, Бранск, Карачэў, Болдыж (у нядаўнай Арлоўскай губ. ля м. Дзьмітраўска), Дамагашч, Пераяслаў, Пуціўль, Рыльск, Курск.

**Беларускасьць Севяран** сьцьвярджаюць тыя-ж альбо падобныя даныя розных навук, што й беларускасьць Дзярвян (гл. вышэй). На вялікай часьці зямлі старавечных Севяран (з большага кажучы, на поўнач ад Дзясны) дагэтуль захавалася звычайная беларуская мова; на іншай часьці, што падпала пад вялікі ўкраінскі ўплыў, у мове жыхарства захаваліся беларускія рысы, сьветчачы пра спрадвечную генэтычную прыналежнасьць яе да мовы беларускае і пра такую-ж спрадвечную розьніцу ад мовы ўкраінскае.*) Што Севяране, як і Дзярвяне і іншыя беларускія плямёны, чуліся нацыянальна апрычонымі ад Украінцаў, пра гэта сьветча іх гісторыя, што пабачым ніжэй. Гэтта адно зацемлю, што яшчэ у шасьцьдзясятых гадох дзевятнанцатага стагодзьдзя Украінцы звалі Севяранмі Беларусаў паўночнае Чарнігаўшчыны, зн. патомкаў старавечных Севяран. У часапісе „Основа" із жніўня 1862 г. ў вартыкуле „О городницком наречии" (зн. аб горадненскім), падпісаным Леся-ій, чытаем: „Самую поўнач губэрні (паветы: Сураскі, Мглінскі, Старадубскі й Навазыбкаўскі) занялі Беларусы, ведамыя ў жыхараў іншых паветаў губэрні пад іменям Лытвынов, Сіверян, Полісцев, Подзегун" (аддзел XX, бач. 47).**) Ляпей, як тут названыя Севяране, назваць Беларусаў немагчыма, бо тут маем агульна-беларускі нацыянальны назоў „Ліцьвіны", другі агульна-беларускі, але паходзячы ад характару краю, назоў топографічны „Полісцы",

(Далей будзе)

---

*) Гл. вышэй, пры разглядзе беларускасьці Дзярвян.

**) Расторгуев.: Сев.-Белор. говор, б. 207.

то аднята, пахочаць лі пазваці таго, хто яму заставіў, тот... так многа можнымі людзьмі і ізь землямі маець яму то нагарадзіці 332. В. ст. **мажнейшы*** — 1) более сильный, более влиятельный. Шляхціч супроць асобы стану вышшага й мажнейшага заручнага лісту патрабаваў 90. — 2) более зажыточный Нсл. 287. Мажнейшы ён за ўсіх нас Тм. **можна*** прс. — зажиточна. Можна жывець Тм. В. ст. **мажней*** — 1 сильнее Тм. Пацягні мажней вяроўку Тм. — 2) зажиточнее. Ён мажней нашага брата Нсл. 287. **мажнець*,** -ею, ееш, ск. памажнець* — становиться, стать зажиточнее. Камышкі Лёз. (Ксл.). Пакрысе мажнець сталі Тм. За маладым панам мужычкі сталі мажнець, памажнелі Нсл. 287. Ад добрага парадку мужычкі мажнеюць, а ад дурнога галеюць Тм.

**майстат*,** -у — маестат, величество. А Аль кітабе Крыв. муз. Ів. Луцкевіча і ў часьці іншых памяткаў ё **майстат,** але ў Статуце і некаторых іншых знаходзім **маестат** — відавочна з прычыны консэрватыўнай традыцы ў іх аўтараў. Яка ў кажнам, патрэба даводаў яўных і ясных, так і ў вабражэньню маястату нашага 69. Хто не каго абражэньне маястату вядзець, маець давесьці сяма сьветкамі Тм. Кажны майстат розны блеск выдае, адзін аднаго сьветласьцяю асьвячае Кіт. 114б. Але нельга сказаць „яго цэсарскі (або імпэратарскі) майстат", але трэба сказаць „яго цэсарская **вялікасьць".** Бог вялікі, Бог вялікі у вялікасьці, над Яго-ж і мацней Яго нікога нямаш Кіт.

**маладая*,** -ой — 1) молодая; — 2) невеста..

**малады*,** -ога — 1) молодой; — 2) жених Ар.; Акін. 193.

**маладзён*,** -а — молодой челавек.

**мана*,** -ы — ложь Дз.

**маніцца*,** -нюся, -нішся — намереваться, иметь намерение Ар.

**маніць*,** -ню, -ніш, ск. зманіць* — лгать Дз.

**маныш*,** -а — лжец Дз.

**манюка*,** -і, суп. — лжец Дз.

**мань*,** -я — лжец Іг.

**маньцель*** = мань Іг.

**мена*,** -ы — мена (юр.), обмен. Хто-бы якія рэчы памяняў, тагды пры такой мене маюць быць барышнікі 486. Тую мену да кніг зазнаці Тм. Дык м. „товарообмен" будзе **таварамена*.** Зьменшанае ад **мена** ёсьцека **менка*** Ар.

**менаваць*,** -ную, ск. наменаваць* — 1) именовать, называть по имени Нсл. 284. Мяне, панок, наменавалі Тм. Яго так мянуюць Тм. Есьлі-бы шляхціч шляхціча на дарозе разьбіў, а воны разьбіты ў парсуну яго пазнаў і перад урадам раны свае паказаў і таго-ж часу аказаўшы таго ў парсону менаваў альбо наймя, іменям мянуючы, да кніг запісаў 415. Хто-бы бяз волі айца (дзяўчыну) ўзяў ґвалтам, мянуючы іж-бы яму пашлюбіла 397. Старана зараз тых сьветак у суду імёны менаваці маець, на каторых пастанавеньне прасіці будзець 258. — 2) упоминать Нсл. Пра ўсіх так менавалі Тм. **менавацца*,** ск. наменавацца*, зв. — называться, назваться Тм. Гэта так панашаму мянуецца Тм. Наменаваўся шляхцічам Тм. **менаваны*** — 1) поименованный. Тм. Ня ўсі менаваныя прышлі Тм. — 2) упомянутый. **верх менаваны*** — вышеупомянутый. А за бочку тых верх менаваных ярын савітаю цаною больш, ніжлі за капу паложана, маець быці плачона 471. **вышменаваны*** — вышеупомянутый. Пан Бог Ствaрыцель усіх прарокаў вышменаваных спасеньне дасьць Аль кітаб. 79б.

**мернасьць*,** -і — умеренность Ар.; Нсл. 296. Зь мернасьцю жывучы можна пражыць Тм.

**мерны** — умеренный Ар.; Нсл. 296. Уставуем, абы на рокі земскія ніхто зь вялікімі непатрэбнымі почты слуг і прыяцель сваіх не прыяжджаў, адно ў почсьцьве мернам 232. Мерны мароз Нсл. 296. Мерная плата Тм. **мерна*,** прс. — умеренно Ар.; Нсл. 296. Мерна жывець Тм. Мерна даець старцу Тм.

**місьцюк*,** -а — скрытный, злостный (или мстительный) вредитель Маркоўцы Вял. Што табе, дудар, прысьпела шчыру песьню завадзіць? Ці то лёгкае, брат, дзела нашу брацьцю абудзіць? Крыкнуць на цябе паноўе, што ты злодзей і місьцюк, страціш голас і здароўе і дуду упусьціш з рук (з альбому Вярыгі Дарэўскага).

**мыляцца, мыліцца** — гл. абмыла.

**мыта*,** -а — пошлина Гсл.; Лужасна Куз. (Ксл.). Ад таго ня маець быць мыта давана 96.

**мытня*,** -і — таможня Гсл.

**мытнік*,** -а — таможенный чиновник Гсл., мытарь. Мытнікі нашы мыта новае бралі 81.

**мытніца*,** -і = мытня Гсл.

**мытны*** — таможенный Гсл.

**мытны збор*** — таможенная пошлина Акін. 191.

**мукар*,** -а (націск на му) — мучитель. Мукары языкі рэжуць Кіт. 129а.

**мукі*,** -аў — пытка Стт.; Акін. 191.

**мучыць*,** -чу, — пытать, подвергать пытке. Тот чалавек падазроны мучан маець быці 493. **мучыцца*** — страдать. У вагню душы іх мучацца Кіт. 130б.

**наварат*,** -у (націск на на-) — рецидив. **другім наваратам** — вторично Войш.

**наваратны*** — многократный, рецидивный.

**наваратны выступ*, выступак** — рецидивное преступление, проступок. **выступнік-наваратнік*** — рецидивист.

**нǎвязаць*,** -жу, -жаш — наложить штраф, оштрафовать.

**навязка*,** -і — пени, штраф.

Маець шкоду плаціці з навязкаю, каня канём, а вала валом навязаці, а за саху дзесяць грошай, а за нарогі дванаццаць грошай заплаціці 368. Увязаньне ў вонае йменьне за рэч асуджаную паступіці, а к таму ґвалты, зарукі, у лісьце судовым апісаныя, з навязкаю сам плаціці павінен будзець 274.

**навука*,** -і — 1) учение, обучение Ар.; Нсл. 301; Шсл.; Лужасна Куз. (Ксл.). Аддаў у навуку да каваля Тм. Лёгка даецца яму навука Ст. Аддаць пара хлапца ў навуку Нсл. 301. Патрабуй навукі, як выйдзеш із калыбкі, пакуль пойдзеш да грабавой дошкі Кіт. 44б. Дзеці ад маткі сваяе да апякуноў браны быці ня маюць, але маюць застаці пры матцы. Дзеўка да выхаду яе замуж, а мужчына да лет такіх, у якіх ужо на навуку да школы даваці годна, то ёсьць да сямі лет 294. — 2) инструкция. Захаваціся так маець, яка ў том артыкуле вышэй навука апісана ёсьць Стт. Навука апякуном, як маюць апеку на сябе браці 305. Маець вонага дзержачага ўрадоўне, яка ў том навука ў артыкуле сорак восьмам сяго разьдзелу ёсьць апісана, абнесьці Стт. 230. — 3) поучение. — 4) урок (наказание) Шсл. На другі раз яму будзе добрая навука Ст. Далі яму добрую навуку Нсл. 301. — 5) ученіе. Ханіфаг імама навука пэўнейшая. Кіт. — 6) наука Лужасна Куз. (Ксл.). Навука да ўсяго дойдзе Тм. — 7) наставление. Шсл.; Нсл. 301; Ар. Гэй прароча, пытайся ў іх, навуку чы давалі няверпікам, чы навучалі нявернікаў. Кіт. 113а.

**навучаць*,** -аю 1 — наставлять Шсл. Матка дачку навучае Ст.

**нагляд*,** -у — надзор Ар., надсмотр Гсл.

**наглядаць*,** -аю 1 — надзирать Ар.

**нагляднік*,** -а, ж. **наглядніца*,** -ы — надзиратель, -ница Ар.

**наемца*,** -ы — наниматель, -ница.

**назіраньнік*,** -а, ж. **назіраньніца*,** -ы — наблюдатель, -ница.

**назіраць*,** -аю, -аеш — наблюдать Ар. Назірай добра, каб статак ня лез у шкоду Ст. Назірай за пшчоламі Нсл. 307. **назіраны*** — 1) наблюданый Ар. — 2) наблюдаемый Ар. **назіраньне*,** -я — наблюдение Ар.

**наймiт*,** -а, ж. **наймітка*,** -і — наемный работник, -ица Ар. Так-жа ся маець разумеці і суджона быці а наймітах Стт.

**наказ*,** -у — 1) извещение Гсл.; Ар. — 2) повестка.

**наказаваць*,** -зую, -зуеш, ск. **наказаць*,** -жу, -жаш — дать знать, передать извещение, известить Ар. Накажы мне, калі будзе якая работа Сянно (Ксл.). Як трэба будзе, дык будзем наказаваць, каб прыходзілі к нам. Няма кім наказаваць: сам прыходзь Тм. Накажэце нашаму Міхалю, хай каня вядзе з поля дамоў Тм. Тата наказуе, што мама дужа хвора Нсл. 308. Калі-б ты мне наказаў, калі пан прыедзе Тм. Наказавалі на вясельле Ар.

**наканаваць, наканаваны, -а, наканаваньне** — гл. кон.

**належачы*** — 1) принадлежащий Нсл. 310. Ты рэчы, да цябе не належачыя, пабраў Тм. Мы гаспадар усіх абываценяй панства нашага Вялікага Княства Літоўскага і земль к яму належачых Рускіх, Жамойцкіх і іных, да аднакавае роўнае вольнасьці прыводзячы, усіх падданых княскіх, панскіх і шляхоцкіх ад верху менаваных і якім-колечы іменям названых поцягляй і павіннасьцяй ад сяго часу на ўсі патомныя часы выймуем і вызваляем вечнымі часы 141. — 2) надлежащий Нсл. Рабі належачым спосабам Нсл.

**нашэньнік*,** -а, ж. **нашэньніца*,** -ы — носитель, -ница; носильщик Ар.

**на ўпад** — гл. ля ўпад.

**наўчоны*** — учоный Аль Кіт.

**нябыцьцё** — гл. быцьцё.

**нядосыцьучыненьне** — гл. досыць чыніць.

**няпрылічны** — гл. ля **ліцо.**

**нястанае, нястаньне** — гл. стаць.

**няшчысьлёны*** — бесчисленный Ар.; Нсл. Няшчысьлёнае прайшло войска Нсл.

**нячысьлены*** (націск на -чы-) — немногочисленный.

**неадвалочны** — гл. адвалакаць.

**небясьпечнасьць, небясьпечны** — гл. бясьпечны.

## ХРОНІКА

— У нумару 20 з 13. VII. 1952 г. нядзельнага выданьня ўкраінскае газэты „Свобода" (выдаецца ў Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі) надрукаваны артыкул Я. Станкевіча „Крыху пра Вялікі Ноўгарад", і там-жа ў № 21 з 20 VII. 52 артыкул таго-ж аўтара пад назовам „Пскоў". У другім артыкуле аўтар даводзе беларускасьць Пскоўшчыны з гледзішча моўнага й гісторычнага. У вартыкуле першым аўтар, між іншага, зрабіў некаторыя папраўкі да арт. А. Орлікоўскага, надрукаванага ў штадзенным выданьню „Свабоды", дзе да тэрыторыі Бялікага Ноўгараду былі абмыльна залічаныя некаторыя беларускія землі.

---

**Прыслалі на (або за) „Веду" ў ліпню:** Р. Казак 16 дал. (15 дал. ахвяра, 1 дал. падпіска), кольп. Яз. Вінцынґер 4,80, кольп. М Сардачэнка 3.00, Г. Пупінішка 1.50, Фр. Нехвядовіч, Я. Крэсла, П. Пецька па 1.00. Апрача таго, ад кольп. Д. Яцкевіча адзін аўстр. хунт, зьменены на 1 дал. 75 ц. Усім вялікі дзякуй!

**З Рэдакцыі „Веды" можна выпісаваць гэткія беларускія кніжкі:**



---


**Ад рэдакцыі.** Рэдакцыя засьцерагае сабе права скарачаць рукапісы аўтараў і папраўляць іх мову. Канчальная моўная рэдакцыя ўсіх матар'ялаў, у тым ліку й літаратурнага адзьдзелу, належа да галоўнага рэдактара. З прычыны нястачы сяродкаў рэдакцыя ня плаце ганорару аўтарам.

**Рэдактар:** Др. Я. Станкевіч **Editor:** Dr. J. Stankievich
Рэдактар літаратурнага адзьдзелу Ант. Адамовіч.
Editor of the literary section Anth. Adamovich

---

Ukrainian American Press, 133 E. 4th St., New York 3, N. Y.